# КРЫВІНКА

КАСТРЫЧНІК
№ 15 (187)
2016 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




НАША ЖЫЦЦЁ

## ПАСЛЯ ВІЗІТА ПАЧАЛІ РАМОНТ ДАРОГІ

**У Бешанковіцкім раёне пры вырашэнні простых пытанняў даходзіць да анекдатычных сітуацый. Скажам, для таго, каб адрамантаваць 300 метраў гравійкі, трэба было каб у раён завітаў першы намеснік старшыні КДК Віцебскай вобласці Вячаслаў Данілаў.**

Выходзіць, каб высокі госць абмінуў Бешанковічы, дарога стаяла б нерамантаванай. А так ужо адразу пасля "прамой лініі", якую правеў высокі госць разам з старшынём райвыканкама Леанідам Пяньkоўскім, дарожная служба прыступіла да ліквідацыі праблем. На ўчастку дарогі ад вёскі Старыя Ранчыцы да Верхняга Крывіна ўжо праведзена грэйдараванне дарогі, прыступілі да аднаўлення дарожнага палатна. А да гэтага яна ні слухам ні духам той рамонт не вяла.

А што робіць у раёне мясцовая ўлада, чым яна займаецца? Чаму, каб адрамантаваць тую дарогу патрэбны званкі на наўпроставыя лініі? Што, акрамя простых людзей тыя пытанні нікога не турбуюць, ці ў нас канчаткова зацвердзілася аварыйна-тэлефоннае вырашэнне пытанняў?

А яшчэ ж высокі госць правёў асабісты прыём. Падчас яго правядзення адразу чатыры чалавекі звярнуліся да Вячаслава Данілава з пытаннем аб усталяванні межаў зямельных участкаў, размешчаных у вёсцы Прыдзвінне Бешанковіцкага раёна. А вырашыць на мясцовым узроўні тое пытанне было немагчыма. Чым жа займаюцца нашыя чыноўнікі на месцах, ці да іх ужо перасталі звяртацца?

**А. Тутэйшы**

## БЕШАНКОВІЦКАЯ ЛАЗНЯ

**Мікалай Шарснёў даў адказ на пытанне, што рабіць з стратнымі прадпрыемствамі: ліквідаваць ці аздараўляць?**

На кадравым дні пры прызначэнні на пасаду дырэктара камунальнага прадпрыемства «Вітрайкамхоз» АляксандраПасаўцапаўсталажыццёвае пытанне: стратная праца лазняў. Падобная сітуацыя і ў Бешанковіцкім раёне: лазня працуе толькі ў суботу, а наведвальнасць вельмі нізкая.

- Стратных прадпрыемстваў быць не павінна, - сказаў Мікалай Шарстнёў. - Лазневыя паслугі трэба аказваць у комплексе, зрабіць іх якаснымі і прывабнымі, каб людзі больш ахвотна імі карысталіся.

**"Віцебскія весці"**

## *КЛЯНОВЫ ЛІСТ*

*Яшчэ нядаўна ён на дрэве рос,*
*раскашаваў на сонечным улонні,*
*вітаў здалёк мятлушак і стракоз*
*маленькаю зялёнаю далонькай.*

*Яшчэ нядаўна на вятры лунаў,*
*нібы штандар нязломны,*
*пераможны.*
*Ды лёс яго такі – зляцеў няўзнак*
*бурштынавым агнём*
*бездапаможным.*

*Сцякаў крывёй між клёнаў і бяроз,*
*з якімі перашэптваўся калісці,*
*а ноччу на святло акна папоўз,*
*па дывану з разлапістага лісця.*

*Вятры яго пад ранак прывялі*
*на ганак мой заснежаны і слізкі.*
*Я ўспомніў пацалунак твой, калі*
*ён тыцнуўся мне ў твар*
*халоднай пыскай.*

***Г.Станкевіч***



ДАЖЫНКІ – 2016

## У СЯННЕ НА "ДАЖЫНКАХ"

**Бешанковіцкі раён у гэтым годзе не можа пахваліцца багатым ураджаем збожжавых.**

Каравай раёна склаў крыху больш за 35 тысяч тон, што амаль на 40% менш, чым летась.

Аднак і нашы землякі былі сярод узнагароджаных на абласных "Дажынках". Віншаванні на галоўнай сцэне фестывалю працаўнікоў вёскі прымала дырэктар УП "Свіціна-ВМК" Л. П. Мамойка, якой старшыня аблвыканкама ўручыў сертыфікат на атрыманне пагрузчыка "Амкадор-527".

Нашы культработнікі дэманстравалі на "Дажынках" сваё песеннае майстэрства, кулінарнае мастацтва, дасягненні ў дэкаратыўна-прыкладным творчасці. Людзей весяліў народны ансамбль народнай песні "Весялуха" і ансамблевая група аркестра, працаваў клуб аматараў нацыянальнай кухні "Бараболя", майстры раённага Дома рамёстваў правялі майстар-класы па вышыўцы і выцінанцы.

Гасцей і ўдзельнікаў фестывалю цешыла гасціннасцю на сваім падворку РСТ. Ім прапаноўвалі паспрабаваць бліны і дранікі з гарбуза, каўбаскі з індычкі, шашлык з бараніны, наггетсы пікантныя з мяса птушкі, а кухар Кірыл Скрыпкін на вачах у пакупнікоў рыхтаваў блінцы "З полымя, з жару" з начыннем з птушкі, ікры, з грыбамі і мёдам.

У наступным годзе сталіцай "Дажынак" стане Дуброўна, далей Верхнядзвінск, потым Браслаў. Вызначаны райцэнтры ўжо як мінімум на тры гады наперад, каб больш глабальна і сур'ёзна падыходзіць да будаўніцтва новых аб'ектаў і рэканструкцыі існуючых.

**А.Людына**
**"Зара"**

ІНВЕСТЫЦЫІ

## "НАЦІВІТА" ПАЧАЎ ПРАЦУ

**22-га кастрычніка старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Міхаіл Мясніковіч прыняў удзел ва ўрачыстых мерапрыемствах з нагоды адкрыцця навукова-даследчага цэнтра фармпрадпрыемствы СТАА «Націвіта» у Бешанковічах, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Беларускай эканоміцы варта ісці па шляху развіцця біятэхналогій. Гэта Міхаіл Мясніковіч адзначыў у размове з журналістамі. Ён пахваліў кіраўніцтва прадпрыемства. «Завод яшчэ не ўвялі ў эксплуатацыю, а цэлы шэраг прэпаратаў ужо зарэгістраваны і рэалізуюцца на беларускім рынку. Працэс запушчаны. Будуць новыя магутнасці, з'явяцца новыя прэпараты, у першую чаргу з лінейкі імпартазамяшчэння, — сказаў спікер.

— Пералік выпускаемай прадукцыі будзе істотна пашырацца, бо тут не толькі хімічны сінтэз, але і біятэхналогіі. Гэта ў цэлым добры напрамак для беларускай эканомікі. Калі пры невысокай энерга- і матэрыялаёмістасці маем вялікую ўдзельную вагу дабаўленага кошту за кошт інтэлектуальнага ўкладу ».

Зараз айчынныя лекі складаюць 52-53% ад агульнага аб'ёму рэалізацыі на ўнутраным рынку.

«Дзякуючы такім партнёрскім прадпрыемствах гэты удзельная вага будзе значна павялічаны. Тут трэба, каб было правільнае разуменне — у вытворчасці лекаў няма неабходнасці ўсё рабіць самім. Нам варта рабіць высакакласную прадукцыю, якая ідзе і на ўнутраны рынак, і з'ўляецца прадметам экспарту», — сказаў спікер. Ён падкрэсліў, што імпартазамяшчэннем трэба займацца вельмі сур'ёзна.

«Выпрабляючы пэўныя лекавыя

*(працяг на стар. 2)*

«УЛАДАР СЯЛА-2016»

## НАШЫ АДАМОВІЧЫ ПЕРАМАГЛІ

**Пераможцам рэспубліканскага сямейнага сельскагаспадарчага праекта «Уладар сяла-2016» стала сям'я Адамовіч з Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**

Сяргей і Юлія Адамавічы з аграгарадка Ржаўка Бешанковіцкага раёна змаглі заваяваць ганаровы тытул ўладароў вёскі гэтага года.

Усяго некалькі балаў падзялілі іх з сям'ёй Аляксандра і Таццяны Салата з аграгарадка Орда Клецкага раёна Мінскай вобласці.

Трэцяе месца ў праекце «Уладар сяла» занялі Алег і Вольга Сінькевіч з вёскі Семернікі Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці.

Пераможцы і ўдзельнікі фіналу рэспубліканскага сямейнага сельскагаспадарчага праекта былі ўзнагароджаны ганаровымі дыпломамі, грашовымі прэміямі ў памеры 80 базавых велічынь кожнаму фіналісту, а таксама бытавой тэхнікай і іншымі каштоўнымі падарункамі.

Фінал «Уладара сяла» праходзіў сёлета ў Мінскай вобласці. Галоўнымі героямі папулярнага моладзевага праекта былі шэсць сем'яў з розных куткоў Беларусі. Усе яны ўжо перамаглі ў раённых і абласных этапах праекта, цяпер разам са сваімі дзецьмі спаборнічалі за тытул «Уладар сяла-2016» у творчых і сельскагаспадарчых конкурсах.

Конкурс «Уладар сяла» стартаваў у Глыбоцкім раёне 6 мая 2007 года. У 2008-м моладзевая ініцыятыва была падтрымана на рэспубліканскім узроўні. Праект атрымаў пастаянную прапіску ва ўсіх рэгіёнах краіны. З гэтага часу ён стаў традыцыйным і рэалізуецца як рэспубліканскі сямейны сельскагаспадарчы праект, галоўная мэта якога - садзеянне замацаванню маладых сем'яў на сяле, умацаванне інстытута сям'і, развіццё гістарычных, культурных і сямейных каштоўнасцяў, традыцый беларускай вёскі, далучэнне моладзі на сяле да здаровага ладу жыцця.

**БелТА**

ІНВЕСТЫЦЫІ

*(пачатак на стар. №1)*

прэпараты, хай нават не па поўным тэхналагічным цыкле, а на базе вядомых субстанцый, на рынку з'яўляецца беларускі канкурэнт, існаванне якога сур'ёзна адбіваецца на цэнах на лекі. Замежныя партнёры бачаць, што яны не могуць праз манаполію цэн дамінаваць на беларускім рынку і вымушаныя ісці на зніжэнне. Такім чынам, гэтаяшчэ сацыяльная палітыка. Пытанне імпартазамяшчэння вельмі актуальнае», - адзначыў Міхаіл Мясніковіч.

Працягваючы тэму імпартазамяшчэння, старшыня Савета Рэспублікі дадаў, што ставіцца да гэтага пытання некалькі стрымана. «Не ўсе мы можам рабіць, ды і не трэба імкнуцца на ўсе 100% зачыняць ўнутраную патрэбнасць. Нам варта вырабляць канкурэнтаздольную прадукцыю, прадаўшы на знешніх рынках частку з якой, можна прыдбаць тое, што не робіцца ў сябе», — перакананы Міхаіл Мясніковіч.

Фармкампанія «Націвіта» — завод па вытворчасці прэпаратаў для лячэння злаякасных пухлін, а таксама шэрагу аутоіммунных і цяжкіх інфекцыйных захворванняў.

Фармпрадпрыемства ў Бешанковічах прыступіць да працы ў пачатку 2017 года. У агульнай складанасці будзе створана каля 90 працоўных месцаў, з іх на вытворчасці ў Бешанковічах амаль 40.

**БелТА**

НАВІНЫ ЭКАНОМІКІ

# ГРОШАЙ НЕ ДАДУЦЬ

**1-га кастрычніка місія Міжнароднага валютнага фонду на чале з яе кіраўніком Пітэрам Долманам завяршыла працу ў Беларусі.**

Перспектывы атрымання Мінскам трохмільярднага крэдыту ад МВФ эксперты на дадзеным этапе ацэньваюць вельмі скептычна, піша Радыё Свабода.

Мінск працягвае абмяркоўваць магчымасць прыцягнення новага крэдыту МВФ на 3 млрд даляраў на 10 гадоў пад 2,28%.

Кіраўнік фонду Мізэса Яраслаў Раманчук лічыць, што на сёння шанцаў атрымаць крэдыт МВФ у афіцыйнага Мінска няма.

«Думаю, што сёння перспектыў атрымання крэдыту няма. Беларускія ўлады не выканалі шэраг вельмі важных рэкамендацый, якія ў апошнія гады выказвае МВФ. Заўвагі МВФ тычацца перш за ўсё таго, што няма сапраўднай лібералізацыі цэнаў, няма курсу на пабудову сапраўднай рынкавай эканомікі. МВФ не збіраецца даваць грошы на ўратаванне беларускага крыштальнага сасуда. А нейкіх канкрэтных фактаў, якія б сведчылі, што Аляксандар Лукашэнка робіць стаўку на будучыню, на зусім іншы эканамічны ўклад, — няма. Таму, я думаю, будуць працягвацца перамовы, беларускі ўрад будзе старацца пераконваць нейкімі дробязямі, што ён добра ўсё робіць. Падвысіць кошты на жыллёва-камунальныя паслугі, зробіць інфляцыю 9% з дапамогай рэгуляваных цэн і скажа — вось, у нас макраэканамічнай стабільнасці стала больш.

У казарме можа быць парадак, але ці добра даваць грошы на ўтрыманне гэтай казармы, а не зусім іншую архітэктуру краіны?» — адзначыў Яраслаў Раманчук.

Эканаміст Леанід Злотнікаў таксама не верыць, што ў сённяшняй сітуацыі Беларусь атрымае крэдыт МВФ.

«Верагоднасць таго, што Беларусь не атрымае крэдыт, большая, чым верагоднасць таго, што крэдыт будзе выдзелены. З аднаго боку, улады просяць, а з іншага боку не прымаюць тых мераў, якія патрэбныя для атрымання крэдыту», — кажа ён.

Злотнікаў згадвае, што ў 2009 годзе, калі Беларусь атрымала крэдыт МВФ, з боку беларускіх уладаў таксама было шмат абяцанняў наконт змены эканамічнай палітыкі. Але атрымаўшы грошы, улады забыліся пра гэта.

«Гаворка цяпер ідзе пра тое самае. Урадімкнецца паказаць МВФ, што гатовы да рэформаў у напрамку развіцця рынкавых адносінаў, але з іншага боку Міністэрства гандлю (Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю) атрымлівае дадатковыя паўнамоцтвы па кантролі цэнаў, а Лукашэнка абяцае рэгуляваць цэны ледзь не на ўсе тавары. То бок з аднаго боку мы бачым, што прадстаўнікі ўраду нешта абяцаюць МВФ, а з іншага боку прэзідэнт дэманструе, што змяняць беларускую эканамічную мадэль не збіраецца. Яшчэ некалькі гадоў таму, калі пачыналіся размовы пра новы крэдыт, МВФ хацеў, каб абяцанне выканаць рынкавыя рэформы даў менавіта кіраўнік дзяржавы.

Крэдыт Беларусі могуць выдзеліць, але наша краіна павінна выконваць канкрэтныя ўмовы. Пакуль упэўненасці ў тым, што гэтыя ўмовы будуць выкананы, няма», — адзначае эканаміст.

**eurobelarus.info**

ЗДАРЭННІ

# ЗАГІНУЛА ЖАНЧЫНА

**Здарэнне адбылося паблізу вёскі Шаркаўка Лепельскага раёна на 160-м кіламетры дарогі М3 Мінск — Віцебск. 29-гадовая жанчына, якая пражывала ў вёсцы Бачэйкава, ляжала проста на праезджай частцы.**

У 02.05 на яе наехаў 42-гадовы кіроўца DAF, грамадзянін РФ, які ехаў па трасе М3 Мінск - Віцебск у напрамку Віцебска.

У выніку наезду жанчына атрымала цяжкія траўмы і была даст аўлена ў бальніцу, дзе ў 05.00 памерла. У ДАІ адзначылі, што пешаход два разы прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнні ПДР у стане ап'янення.

У канцы верасня намеснік старшыні Вярхоўнага суда Руслан Аніскевіч паведаміў БЕЛТА, што суд не лічыць неабходным апрыёры здымаць адказнасць з кіроўцаў за наезд на ляжачага на дарозе пешахода.

«У кожным канкрэтным выпадку следства і суд абавязаны высветліць, калі для вадзіцеля паўстаў момант небяспекі і ці мог ён пазбегнуць наезду на ляжачага пешахода. Калі не будзе ўстаноўлена яго віна, то, вядома, ён не можа быць прыцягнуты да адказнасці. Але ставіць пытанне менавіта так, што трэба зняць адказнасць у прынцыпе нейкім валявым рашэннем для ўсіх, будзе некарэктна», - сказаў намеснік старшыні Вярхоўнага суда.

**М.Васільеў паводле сайта TUT.BY**

# СМЕРЦЬ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ

7-га кастрычніка а 17-й гадзіне ў Бешанковіцкую ЦРБ даставілі пенсіянера, які ўпаў з веласіпеда. Мужчына быў без прыкмет жыцця. Нягледзечы на ўсе рэанімацыённыя мерапрыемствы, ажывіць яго не ўдалося.

Мяркуюць, што чалавек памёр не ад атрыманай пры падзенні траўмы, а з-за таго, што пры паездцы ў яго ўзніклі праблемы з сэрцам.

З мужчынам працаваў Следчы камітэт. Яго цела накіравана на далейшую экспертызу ў Віцебск.

**А.Тутэйшы**

# РАЗБОРКІ ПА-БЕШАНКОВІЦКУ

**26-га верасня ў Бешанковічах пяцёра маладых хлопцаў трапілі ў міліцыю, пасля таго як яны прымянілі фізічную сілу да жыхара Бешанковічаў.**

Маладыя людзі з самай раніцы завіталі ў госці да свайго знаёмага, якога спачатку збілі, а потым запіхнулі ў багажнік аўтамабіля і павезлі з сабой.

На шчасце, хтосьці заўважыў няладнае і патэлефанаваў у міліцыю. Тыя адрэагавалі аператыўна. Уся пяцёрка была затрыманая.

Чым кіраваліся маладыя людзі ў сваіх дзеяннях і як далей будуць развівацца падзеі, мусіць паведаміць РАУС.

**А.Тутэйшы**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ІДЭЯ

# БУДУЕЦЦА РАСЕЙСКІ ІДЭАЛЯГІЧНЫ АБ'ЕКТ

**Будуюць нават не макет, а фантазію на тэму, бо ніхто ня ведае, як дакладна выглядала Сафія ХІ ст. пабудовы, якую ў 1710 годзе зруйнавалі расейскія войскі на загад Пятра І. А да 1750 віцебляне адбудавалі як уніяцкі храм у стылі віленскага барока. І які сёньня музэй і канцэртная заля.**

Прадстаўнікі Расейскай праваслаўнай царквы ў Віцебску тлумачаць сваю ініцыятыву жаданьнем аднавіць сьвятыню.

Месца пад набабуд абраў асабіста дэкляраваны спонсар праекту галава «Газпраму» Аляксей Мільлер. Гэта парк на Дзьвіне ў рысе гістарычнага Віцебску. Думаю, «Газпром» — ключавое слова, каб зразумець, як так проста Лукашэнка ўхваліў праект, а мясцовыя ўлады пагадзіліся на сур'ёзную пераробку абліччa цэнтру Віцебску. Ім кошт расейскага газу больш важны.

Зьніжка на газ рэч імаверная, няпэўная. А каму найперш выгадны нававбуд? Магчыма, мясцоваму кліру Маскоўскага патрыярхату РПЦ, бо ўвойдуць у гісторыю з рэалізацыяй такой грандыёзнай справы. Магчыма, ідэолягам «русского мира», як мясцовым, так і расейскім. У царскай, савецкай і цяперашняй расейскай трактоўцы копіі Канстантынопальскай Сафіі ў Ноўгарадзе, Полацку і Кіеве сымбалізуюць тры галіны «адзінага рускага народу». Без самастойных беларускай і ўкраінскай нацыяў.

Ёсьць версія, што Сафіі сымбалізавалі не адзінства, а наадварот — незалежнасьць Полацкай, Наўгародзкай і Кіеўскай дзяржаваў. Але пакуль гэта інфармацыя з серыі «толькі для спэцыялістаў». Вэрсія пра «трыадзінства» папулярная, вядомая ўсім са школы. Таму маем на сваёй зямлі за дэкляраваныя расейскія грошы зь ініцыятывы расейскай рэлігійнай арганізацыі сымбаль адсутнасьці беларусаў як самастойнай нацыі. Хто робіць – той і расстаўляе акцэнты.

З прыватных размоваў са знаёмымі віцблянамі я ведаю, што ніхто ня згадвае ні ХІ ст., ні Пятра І, ні тэорыю «трыадзінства». Патрабаваньне людзей: «Стаўце ў іншым месцы». А ў іншым, напрыклад, віцебскім мікраёне, няма сэнсу, бо будзе проста новы храм, без усялякай палітычнай ідэі.

Уявіце сабе — раптам грамадзкасьць перамагае, будоўля пераносіцца. Вы чулі калі-небудзь, каб РПЦ ці «Газпром» былі пераможаныя грамадзкасьцю ў Расеі? Разам з арміяй гэта кіты, на якіх стаіць расейская дзяржаўнасьць. А тут у Беларусі надумалі — наіўныя.

Але шанцы ёсьць, мясцовыя ўлады пакуль не далі канчатковага адказу на зварот грамадзянаў, хоць будаўнічая пляцоўка абсталяваная, і фармальна будаўніцтва пачалося.

Гісторыя цягнецца больш за год. Гэта не лякальная віцебская праблема. Гэта праблема ўсёй краіны, якую актыўная частка грамадзтва прапусьціла. Магчыма, таму, што акцэнт рабіўся на абароне дрэваў, а гэта тыповая лякальная тэма. Але ж дрэвы — вяршаліна айсбэргу.

А ўсебеларуская праблема ў тым, што ствараецца прэцэдэнт, калі за газ можна ўсё аддаць, абы дагадзіць "саюзьніку" і выгандляваць у яго скідку. А калі заўтра ў цэнтры Менску захочуць збудаваць копію маскоўскага Крамля?

Тут не сьвятыня аднаўляецца, тут будуецца расейскі ідэалягічны аб'ект. Такая сабе выведка боем. Беларускія ўлады вайсковыя самалёты пакуль не пусьцілі да сябе, а «палітаддзел» — прайшоў.

Калі пакідаць справу толькі віцебскай грамадзкасьці, заўтра «палітаддзел» прыйдзе проста на менскую Зыбіцкую.

**Севярын Квяткоўскі**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання ячшэ да з'яўлення газеты на папеоы.***

НАША ЎЛАДА

# ОТДУБАСИЛ БОКСЕРСКУЮ ГРУШУ РЕФОРМ

**При этом президент ставит задачу торгового прорыва в Европу, но с экономикой вчерашнего дня миссия невыполнима.**

Очередной кадровый день Александра Лукашенко, 25 октября, не обошелся без явно больной для него темы реформ. Новым подходом к вопросу белорусский официальный лидер в этот слякотный день не блеснул.

Свежеиспеченных местных начальников президент напутствовал так: «Прекратите всякие разговоры по поводу некоего реформирования, еще чего-то. Надо работать с тем, что есть».

**Спор президента с самим собой**

Трудно вообразить, что тему реформ дерзнули инициировать пришедшие на утверждение номенклатурные товарищи не самого высокого звена. Ну не камикадзе же они. Эти люди в знаменательную для своей карьеры минуту обычно вытягиваются во фрунт и едят глазами первое лицо. Они прекрасно знают, какое раздражение у главы государства может вызвать уже само словечко «реформы». Так что Лукашенко ведет давний спор с самим собой.

Да, тему раз за разом подбрасывают внешние кредиторы и прогрессисты из окружения, которым это позволяет ранг (или которых вынуждает отчаянное положение, скажем, на переговорах с МВФ), но решает-то у нас все вопросы известно кто.

Его же концепция, вновь прозвучавшая в кадровый день, исключительно незамысловата: «А реформирование — это совершенствование. Видите, что что-то не так, — совершенствуйте, делайте, но ничего не ломайте».

**Послов делают коммивояжерами**

При этом вновь назначенных послов в Германии и Румынии Лукашенко напутствовал в том духе, что «отвечать перед своей страной придется за конкретный товарооборот». Более того, в торговых отношениях с Германией и другими странами велено «осуществлять прорыв, используя все факторы и методы работы».

Но какие методы у дипломата? Он может в лучшем случае проявить талант коммивояжера (хотя, выбирая стезю, вряд ли мечтал об этом амплуа), однако не в силах улучшить потребительские качества товара или снизить его себестоимость. Проблема же многих видов белорусской продукции в том, что она становится неконкурентоспособной. Как раз-таки из-за нереформированности предприятий.

Да, еще мы гоним за рубеж калий, нефтепродукты и даже немножко своей сырой нефти в ту же Германию. Но этот товар сильно подешевел. И это одна из причин, по которым наш товарооборот с Евросоюзом падает. За январь — июль этого года показатель, по данным Белстата, сократился на 23,5%. При этом наш экспорт в пределы ЕС упал на 31,9% — сильнее, чем импорт оттуда.

Товарооборот же, в частности, с Германией за январь — август составил 1,4 млрд долларов, что на 24,6% ниже показателя за аналогичный период 2015 года. И этот минус мы имеем, заметьте, в условиях, когда Евросоюз отменил санкции, а немцы вообще демонстрируют громадные ресурсы доброй воли в отношениях с Беларусью.

Но при этом Ангела Меркель, как вы понимаете, не может приказать немецкому бизнесу закупать холодильники «Атлант» или гомельские комбайны.

**Привязка к России только усиливается**

Что же мы наблюдаем в итоге? С одной стороны, министр иностранных дел Владимир Макей недавно в Варшаве заявил, что Беларусь хочет ослабить экономическую зависимость от России. С другой стороны, как отмечает центр социально-экономических исследований CASE Belarus, доля России во внешней торговле нашей страны продолжает расти.

За первое полугодие этот показатель вырос с 38,9% до 43,2%. А это означает, по мнению экспертов, что растут риски «в части сохранения уязвимости экономики к внешним шокам, в частности к ситуации в экономике России». Стоит также отметить, что трещит по швам план диверсифицировать наш экспорт к 2020 году по принципу трех третей (чтобы он приходился поровну на ЕАЭС, ЕС и остальной мир).

Таким образом, белорусский руководитель оказался в ловушке собственного консерватизма. И неплохо бы развить экономическую многовекторность (без которой и политическая будет шаткой), и в то же время боязно ломать модель, основанную на привязке к ресурсам восточной соседки.

Фобии эти остаются и даже крепнут притом, что надежды на чудотворный эффект евразийской интеграции (вот пристанкаемся к российским ресурсам — и к черту реформы) утрачены. Недавно Лукашенко даже пригрозил «оптимизировать» (читай: минимизировать) участие Беларуси в этом амбициозном проекте Владимира Путина.

Но на деле подобные заявления, дипломатия скандала (которую Минск широко использовал во время недавней нефтегазовой войны) — лишь способ выбить из Москвы хоть что-то.

**Продолжают отсекать хвост частями**

Оказались несостоятельными и надежды перенаправить потоки отечественного неликвида на страны так называемой дальней дуги. Хотя президентский «боинг» исправно курсирует по этой дуге, подписываются в экзотических столицах декларации, звучат округленные до красивых миллиардов планы скачка двустороннего товарооборота — через какое-то время, как правило, выясняется, что прожекты были маниловщиной.

Загвоздка в том, что и у жителей далекой дуги губа не дура. Там тоже хотят покупать качественный товар по умеренной цене. И белорусов в этом плане на многих рынках обставляют, скажем, те же китайцы.

Некогда они у нас слизывали технологии, а сейчас уже Беларусь завалена их компьютерами, мобильниками, прочей электроникой. И наша гордая страна вынуждена была именно с китайской помощью создавать свое ракетное оружие.

В общем, уже по многим направлениям мы за китайцами только пыль глотаем. Вот вам эффект того, что для тамошних вождей при всех их коммунистических заморочках слово «реформы» не было ругательным.

Другое дело, что хотя Лукашенко и дубасит раз за разом боксерскую грушу реформ, показывая таким образом заботу о народе, процесс де-факто потихонечку идет. Нацбанк тихой сапой установил жесткую монетарную политику (что ударило по заработкам), и вообще без лишнего шума делаются достаточно серьезные уступки тому же МВФ.

Экономические императивы давят, властям некуда деваться. Но пока они куда больше преуспели по части затягивания поясов населения, нежели по части стратегии развития.

От того же, что здешние державные мужи отсекают хвост реформ маленькими частями, народу, о котором так пекутся, придется лишь дольше мучиться

**Александр Класковский**
**naviny.by**




ПРА РАСЕЮ

# ІМПЭРСКІ РЭНЭСАНС

**Некалькі фактаў з інфармацыйнай стужкі. У горадзе Арле пастаўлены помнік Івану Жахліваму (Грознаму). Гэта на дадатак да помнікаў Сталіну, якіх у сучаснай Расеі — 36. Колькасьць бюстаў Сталіна не паддаецца дакладнаму падліку.**

Маскоўскія кінатэатры не захацелі паказваць фільм пра Паўночную Карэю. Мастацкі кіраўнік маскоўскага тэатру «Сатырыкон» Канстанцін Райкін выступіў з рэзкай прамовай на зьезьдзе Саюзу тэатральных дзеячаў Расеі. Ён скрытыкаваў цэнзуру, «сталінскія ўстаноўкі» Міністэрства культуры, закрыцьцё спэктакляў і выстаў пад прыкрыцьцём патрыятызму і маральнасьці.

Міністэрства замежных спраў Вугоршчыны выклікала пасла Расеі ў Будапэшце, пасьля таго як па РТР тэлевядучы Дзьмітры Кісялёў збэсьціў рэвалюцыю 1956 году, спрабаваў ацаніць яе як змову заходніх спэцслужбаў, вынік дзейнасьці дывэрсійных атрадаў нацыстаў, якія паўцякалі пасьля вайны за мяжу.

У сфэры афіцыйнага ідэалягічнага канцэпту Расея ня проста вяртаецца ў савецкія часы. Бо ў гісторыі СССР былі розныя пэрыяды: хрушчоўскі, брэжнеўскі, гарбачоўскі. Дык вось у некаторых аспэктах Расея адкацілася ў эпоху сталінізму. Вяртаецца культ Генэралісімуса. Поўнасьцю апраўдваецца замежная палітыка 1930–1950-х гадоў. Пакт Молатава-Рыбэнтропа падаецца цалкам у інтэрпрэтацыі сталінскіх часоў. Хіба толькі засталося зрабіць апошні крок і абвясьціць, што ніякіх рэпрэсіяў і тэрору супраць уласнага народу не было, гэта ўсё выдумкі амэрыканскіх фальсыфікатараў і ворагаў Расеі.

Цікавы нюанс. Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 году ў афіцыйным расейскім дыскурсе трактуецца хутчэй адмоўна, чым станоўча. У адрозьненьне ад Беларусі, дзе 7 лістапада паранейшаму лічыцца афіцыйным сьвятам. Кожны год у гэты дзень Лукашэнка віншуе беларускі народ з чарговай гадавінай падзеі, якая, паводле афіцыйнай трактоўкі, рэалізавала адвечную мару беларусаў аб сацыяльнай справядлівасьці.

Дык вось у Расеі гэтая дата не сьвяткуецца. Бо трохі дзіўна было б казаць пра ідэю сацыяльнай справядлівасьці ў краіне, дзе разрыў паміж даходамі кучкі алігархаў і абсалютнай большасьці народу такі вялікі, як мала дзе ў сьвеце.

Таксама на такі падыход да гісторыі ўплывае жывёльны страх пуцінскага рэжыму перад рэвалюцыяй у любых яе праявах. Гэта выяўляецца на ўзроўні інстынкту. Адсюль і непрызнаньне падзей у Вугоршчыне 1956 году народнай рэвалюцыяй. Агрэсія супраць Украіны стала, апроч іншага, і спантаннай рэакцыяй Крамля на кіеўскі Майдан і «рэвалюцыю годнасьці». Невыпадкова зьявілася інфармацыя, што сёньня рэалізуецца праект па ацэнцы «пратэстнага патэнцыялу» студэнтаў і пэдагагічных калектываў расейскіх ВНУ.

Але галоўны трэнд цяперашняй расейскай палітыкі — вялікадзяржаўная ідэя велічы Расеі, адраджэньне імпэрскай ідэалёгіі. А Кастрычніцкая рэвалюцыя разбурыла вялікую імпэрыю.

Але, зь іншага боку, савецкі пэрыяд цалкам упісваецца ў гэты новы-стары ідэалягічны канструкт. Усё пачалося зь вяртаньня савецкага гімну. Але ў такім выпадку ніяк не абысьціся без рэабілітацыі Сталіна і сталінізму. Хоць «правадыр народаў» — непасрэднае параджэньне і спадкаемец ідэалёгіі Кастрычніцкай рэвалюцыі, але адначасова ён ідэальна ўпісваецца ў ідэю велічы Расеі. Культ перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне непазьбежна вядзе да адраджэньня культу «вялікага палкаводца».

І гэтая новая імпэрская ідэалёгія лягічна вядзе і будзе далей весьці да пэрманэнтных канфліктаў з суседзямі. Бо, напрыклад, паўстаньне ў Будапэшце ў 1956 годзе было адным зь першых удараў па савецкай імпэрыі. Потым была «Праская вясна», польская «Салідарнасьць». Таму і такая ацэнка гэтай падзеі Дзьмітрыем Кісялёвым, і адпаведная рэакцыя МЗС Вугоршчыны.

Не выпадкова Пуцін называе распад СССР геапалітычнай катастрофай. Думаю, наступным крокам ідэалёгіі імпэрскага рэваншу стане ацэнка Белавескіх пагадненьняў 1991 году як здрады, дзяржаўнага перавароту, а ягоных удзельнікаў — як дзяржаўных злачынцаў.

Два дзясяткі гадоў таму ў Беларусі выпускалася настойка з назвай «Белавеская горкая». Калі аднавіць яе вытворчасьць, то яна можа стаць вельмі папулярнай у Расеі, галоўным беларускім экспартным таварам. Хоць якая карысьць.

**Валер Карбалевіч**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ЗМЕНЫ ДА ЛЕПШАГА

**Рух «За Свабоду» небеспадстаўна прэтэндуе на ролю галоўнай праеўрапейскай сілы ў Беларусі. Мы дэкларуем зразумелыя і блізкія прагрэсіўнай частцы грамадства ідэі Свабоды, Незалежнасці і Дэмакратыі. Абапіраемся на падтрымку усіх, каму неабыякавы лёс Беларусі, хто разумее, што пазітыўная будучыня можа быць толькі ў дэмакратычнай краіне, якая зрабіла еўрапейскі выбар.**

Падчас справаздачна-выбарчай канферэнцыі, якая прайшла 16 кастрычніка, Рух яшчэ раз красамоўна даказаў, што з'яўляецца дэмакратычнай арганізацыяй, у якой улічваецца кожны голас. Відэа таго, як падлічваліся галасы на выбарах старшыні, мяркую, ЦВК можа рэкамендаваць у якасці практычнага ўзору для беларускіх выбарчых камісій усіх узроўняў.

Я хачу падзякаваць усім, хто прагаласаваў за мяне, паверыў у мяне і маю праграму. Таксама хачу выказаць словы павагі і ўдзячнасці шматгадоваму лідару нашай арганізацыі Аляксандру Мілінкевічу за ягоны маральны аўтарытэт, адданасць беларушчыне і нязменную праеўрапейскую пазіцыю.

Рух «За Свабоду» — арганізацыя, дзе кожны, хто гэтага заслугоўвае, можа стаць аўтарытэтным лідэрам, прэтэндаваць на любую ролю і пасаду. Мы ствараем умовы для асабістага росту і пашырэння вядомасці новых асобаў, як на нацыянальным, так і рэгіянальным узроўні.

Мы можам мець розныя падыходы да канкрэтных тактычных крокаў і рашэнняў, але, безумоўна, адзіныя ў стратэгіі дасягнення галоўнай мэты — дэмакратыі і еўрапейскага выбара Беларусі.

Менавіта агульныя каштоўнасці і стратэгія дзеянняў для нас заўсёды былі вышэй за асабістыя амбіцыі і палітычныя інтарэсы асобных людзей. Я магу гарантаваць, што гэты прынцып застаецца галоўным пасля майго абрання старшынём руху «За Свабоду».

Таму яшчэ раз запрашаю усіх сяброў і калег, у тым ліку тых, хто на момант выбарчай кампаніі сталі апанентамі, з новымі сіламі і энергіяй вярнуцца да паўсядзённай стваральнай працы.

З іншага боку, я разумею, што, як у свой час Уінстан Чэрчыль, не магу гарантаваць нічога акрамя цяжкай працы, слёзаў і поту. Бо наша канчатковая мэта нялёгкая — перамога над аўтарытарным рэжымам, пабудова дэмакратычнай Беларусі. Але, як і Уінстан Чэрчыль, я безумоўна веру ў гэтую канчатковую перамогу. Іначай ня варта было б і працягваць нашую барацьбу. І сам, асабіста, гатовы зрабіць усё магчымае і немагчымае, бо для мяне гэта справа жыцця.

**Юрась Губарэвіч**
**старшыня Руху "За Свабоду"**
**naviny.by**

НАША СПАДЧЫНА

# «ЧАС АБВЕСЦІЦЬ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ»

**Перадача «Справа прынцыпу» на тэлеканале АНТ 24 кастрычніка была прысвечаная тэме нацыянальнай ідэі. Ці патрэбная яна Беларусі? У чым яна заключаецца? І дзе яе шукаць?**

Сярод гасцей перадачы былі старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў і палітолаг Валерый Карбалевіч.

«Я думаю, што прыспеў час, калі дзеля агульнанацыянальнага прымірэння трэба бел-чырвона-белы сцяг абвясціць нацыянальным», — сказаў Карбалевіч.

А што рабіць з дзяржаўным сцягам, спытаўся вядучы Вадзім Гігін.

«Два сцягі — дзяржаўны і нацыянальны», — адказаў Карбалевіч.

Амаль адразу слова ўзяў Алег Трусаў. Ён лічыць, што з бел-чырвона-белым сцягам трэба зрабіць як з Пагоняй — абвесціць яе гісторыка-культурнай каштоўнасцю. «Тым больш, што нашаму бел-чырвона-беламу сцягу налета будзе 100 гадоў», — лічыць Трусаў.

«Заўсёды былі нейкія акупацыйныя рэжымы на тэрыторыі Беларусі і былі калабаранты, якія супрацоўнічалі з іншаземнымі спецслужбамі і арміямі. Для мяне гэта сцяг здраднікаў. Хто яго выкарыстоўваў у ЗША пасля вайны? Тыя, хто працаваў на ЦРУ. Гэта ж праўда», — сказаў філосаф Аляксей Дзермант.

«А Уласаў пад якім сцягам ваяваў?» — рэмарка ад Алега Трусава.

«Гэта ўжо расійская дыскусія», — адказаў Дзермант.

Таксама госцем у студыі быў гісторык, адзін з лідараў заходнерусісцкага руху ў Беларусі Леў Крыштаповіч.

Ён сказаў: «Ніякага расколу сярод народу не існуе, ён існуе сярод інтэлігенцыі. Наша інтэлігенцыя неаднародная ў якім сэнсе? Ёсць інтэлігенцыя беларуская і якая падстройваецца пад беларускую. Я яе яшчэ назаву ўмоўна „польска-шляхецкая". Гэтыя дзве групы і змагаюцца між сабой. І частка польска-шляхецкай інтэлігенцыі навязвае нам бел-чырвона-белы сцяг. А навошта навязвае? Не для таго, каб зрабіць гісторыка-культурнай каштоўнасцю, а каб падмяніць нашу ўласную беларускую гісторыю чужой».

Пісьменнік Георгій Марчук падтрымаў Алега Трусава, што бел-чырвона-беламу сцягу сапраўды прыспеў час надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. «Няхай сцяг жыве, калі ён быў у гісторыі. Мы ж не можам перакрэсліць гісторыю», — сказаў прадстаўнік уладнага Саюза пісьменнікаў.

**Зміцер Панкавец**
**Наша Ніва**

ТРАГІЧНАЕ ЗДАРЭННЕ

# «ИНОГДА ОН ПОДОЗРИТЕЛЬНО ШУТИЛ, ЧТО УБИЛ БЫ КОГО-НИБУДЬ»

**Что говорят о парне, которого подозревают в атаке торгового центра с бензопилой его бывшие одноклассники и знакомые?**

Одноклассники подозреваемого не верят, что он способен на убийство

На фотографиях из торгового центра напавшего на людей парня с бензопилой и топором узнали его бывшие одноклассники. Ребята не могут принять случившееся и говорят, что ни за что бы не поверили, что он способен на такое, сообщает Onliner.by.

В подписи к фотографии в школьном альбоме Влада характеризуют как очень загадочного и замкнутого человека.

Сергей (имя изменено) учился с ним два года перед поступлением. По его словам, Влад не вызывал никаких подозрений, был скромным нормальным парнем.

— Он был не очень общительным, но ничего странного в нем не было. Учился он хорошо, ни с кем не конфликтовал, был обычным парнем. Дружил с одной из наших одноклассниц, после уроков всегда домой шел. Вроде ничем не занимался, — рассказывает Сергей.

В 27-й школе информацию о том, что парень окончил именно это учреждение образования, опровергли.

— Не знаю, откуда у вас такая информация. У нас такой не учился, — сообщила исполняющая обязанности директора.

Знакомая Влада Казакевича: «Мама его очень любит, всегда за ним бегает»

Еврорадио вышло на хорошую знакомую Влада Казакевича, который атаковал ТЦ "Европа" с бензопилой и подозревается в убийстве.

По словам девушки, которая знает его два года, человек он странный: «не любит людей, не любит себя».

— Ему не нравится его внешность. Иногда он подозрительно шутил. О том, что убил бы кого-нибудь, что не любит людей. Но агрессии ни к кому не проявлял, конфликтов с ним не было, — рассказала знакомая Казакевича в интервью Еврорадио. — Он был очень замкнутым человеком и не имел друзей. Часто намеренно так шутил напоказ. Знаю, что в школу №27 он носил с собой перцовые спреи. Для чего, я не знаю. Для безопасности или наоборот. Чтобы он их использовал, я не слышала. Но перед одноклассниками демонстрировал напоказ.

Со слов знакомой Влада Казакевича, его мама летает в Германию, потому что у них там дом.

— Влад тоже, случалось, летал в Германию. Мама в основном, насколько мне известно, живет вместе с ним. Отец живет отдельно в поселке. Влад к нему иногда приезжал и помогал по хозяйству. Чехол у него тоже появился неслучайно. Он играл на акустической гитаре.

Как рассказала девушка, мама Влада «его очень любит, всегда за ним бегает».

— Она верующая, а он атеист. Но в целом у них отношения вроде были нормальные. Мать, кажется, нигде не работала, где они брали деньги, я не знаю. Влад мог сам себя обеспечивать. Я не знаю, правда, как он зарабатывал. Но говорил, что сам оплачивал репетиторов перед поступлением.

Что еще известно о подозреваемом в убийстве в ТЦ «Европа»

По данным предварительного расследования, нападавший молодой человек в 2014 году проходил лечение в психоневрологическом диспансере.

В правоохранительных органах рассказали, что решение о совершении массового убийства с особой жестокостью задержанный принял давно. Свою вину молодой человек признал. Мотивом преступления, по его словам, послужило разочарование в самом себе, отвращение к человечеству, депрессивное настроение.

Своей целью нападавший ставил убийство как можно большего числа людей и желал сам быть убитым при задержании.

Влад Казакевич был студентом первого курса университета МИТСО, но 3 октября его официально отчислили.

17-летний молодой человек — из состоятельной семьи. Он имеет трехкомнатную квартиру в Минске и живет отдельно от родителей.

**gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.10.2016 у 15.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.